

*“Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)*

# ШКЛОЎ-*інфо*

**№11** (93) *жнівень 2014*

*П А З Н А В А Л Ь Н А - А Н А Л І Т Ы Ч Н А Я М Я С Ц О В А Я Г А З Е Т А*

*Выходзіць 2 разы ў месяц* *Заснавана ў ліпені 2009 г.*

чытайце нас зараз і на kamunikat.org

**Жителей Гомельской области просят звонить в милицию при появлении цыган.** В районной газете «Красный Октябрь» (Октябрьский район Гомельской области) вышла статья с призывом граждан проявлять бдительность. Как же избежать мошенничества и других преступлений? Милиция через газету дает советы, первая из которых звучит так: «Остерегайтесь лиц цыганской национальности, которые под любым предлогом (гадания, продажи товаров, покупке домашних животных, попить воды) пытаются проникнуть в ваше жилище и совершают кражи денег, ценностей». Также пенсионерам советуют закрывать жилье на замок, не доверять незнакомым людям и так далее.

29 июля 2014 года состоялась торжественная церемония закладки капсулы времени на территории **ИООО «Омск Карбон Могилев».** В ближайшие три года здесь будет построен новый завод по производству технического углерода. Церемония ознаменовала окончание прединвестиционной фазы проекта и начало проведения строительных работ. Учитывалось ли при этом, что основной потребитель продукции ООО «Белшина» находится в 100 км от производства – секрет.

*П.Мігурскі*

## Карупцыя: мясцовы ўзровень

Карупцыя – выкарыстанне службовай асобай сваіх уладных паўнамоцтваў і даверананых яму праў, а таксама звязаных з гэтым афіцыйным статусам аўтарытэту, магчымасцей, сувязяў у мэтах асабістай выгады, супярэчных заканадаўству і маральным установкам. Карупцыяй называюць таксама подкуп службоўцаў і іх прадажнасць.

Карупцыя мае даўнія карані, але раней на Беларусі яна не была такой масавай, як зараз. Разрастанне карупцыі да буйных памераў звязана з прыходам да ўлады аўтарытарнага кіраўніка, амаральных дзялкоў, нават былых крымінальнікаў. Добра засвоеныя злачынныя метады тут жа ўкараняюцца ў дзяржаўную сістэму, пераносяцца на грамадства. І хаця ў Беларусі прыняты Закон “Аб барацьбе з карупцыяй” (ад 20 ліпеня 2006 г.), які прызваны абараняць правы і свабоды грамадзян, эфектыўнасць яго дзеяння зведзена да своеасаблівага фільтра зарваўшыхся чынуш, якія вельмі ўжо хуткімі тэмпамі фармуюць асабісты дабрабыт.

Карупцыя навогул з’яўляецца сістэмным прадуктам грамадства, вынікам яго недастатковай прынцыповасці, а ў Беларусі і прадуктам дзяржаўнай палітыкі. Напрыклад: куды глядзіць дзяржава (і грамадскасць), калі кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў і спецыялісты, звязаныя з закупкамі сыравіны і матэрыялаў у прыватных фірм, маюць неблагія даходы ад самога факту закупак. І гэта не проста зайздрасць абывацеля. Такім чынам на дзяржаўныя прадпрыемствы паступае не заўсёды якасная прадукцыя. І пра якую канкурэнтаздольнасць большасці магілёўскіх вытворцаў можна ў гэтым выпадку весці гаворку? Бо вынікам гэтага своеасаблівага прыватна-дзяржаўнага партнёрства загружаныя склады дарагой і не зусім якаснай гатовай прадукцыяй. Пры гэтым невялікае кола мэнэджараў вядзе даволі шыкоўнае жыццё, а радавыя працаўнікі тыднямі чакаюць жабрацкага заробку. Дарэчы, электронныя таргі, абавязковыя для усіх дзяржаўных прадпрыемстваў, маглі б прынцыпова выправіць становішча. Найлепшы ж выхад з гэтага няпростага становішча – прыватызацыя дзяржмаёмасці.

Ці можна спадзявацца ў навядзенні парадку на эканамічнай прасторы вобласці на сілавыя структуры – органы МУС, КДБ, КДК, следчы камітэт? Так, але ж, напрыклад, справа “адкатаў” на

дзяржпрадпрыемствах зайшла так далёка, што большасць "саплівых" маркетолагаў нават і не ўтойваюць свае "левыя" крыніцы ўзбагачэння. Ды і да саміх "барацьбітоў" ёсць пытанні: арыштаваны па артыкулу "карупцыя" "перавертні ў пагонах" з Клімавічскага РАУС, шклоўскі начальнік ДФР КДК, магілёўскі суддзя, якія самі павінны былі стаяць на ахове правапарадку.

Ёсць пытанні і да прыватнага бізнэсу, але ж ён працуе ў квазірынкавых умовах і не можа быць у дадзеным выпадку цывілізаваным. Таму ўсе спробы ўлад падвысіць эфектыўнасць эканомікі будуць разбівацца аб камяні своеасаблівых адносін "прыватнае-дзяржаўнае".

Яшчэ больш "адкатная" хвароба распаўсюджана ў бюджэтнай сферы. Закупка абсталявання ў адукацыйныя і медыцынскія ўстановы (асабліва за валюту), іх капітальны рамонт – гэта бязмерныя магчымасці для чыноўнікаў, якія рэгулююць таварныя і фінансавыя патокі для забяспячэння іх функцыявання. Ды ці мала другіх магчымасцей у нячыстых на руку чыноўнікаў – ЖКГ, арэндныя адносіны, сельская гаспадарка. На пытанне, ці дазваляюць зараз супрацоўнікам сілавых ведамстваў правяраць начны развоз малочных і мясных прадуктаў па магазінах з адпаведных перапрацоўчых прадпрыемстваў, адказныя асобы разводзяць рукамі.

Вось таму і ўражанне, што ніхто зараз са злодзеяў-карупцыянераў нікога не баіцца і не зважае на маральныя нормы і грамадскую думку. Дзяржаўныя СМІ стараюцца абыходзіць шматлікія факты, суды над карупцыянерамі праходзяць у закрытым рэжыме. Агалосцы прыдаюцца толькі крымінальныя справы, якія выгадныя ўладзе. Нават кіраўнік дзяржавы, які раз пораз аб'яўляе барацьбу карупцыі, бяссільны ў гэтай справе барацьбы, не разумеючы, што самы надзейны заслон злодзеям можа паставіць толькі дэмакратычны дзяржаўны лад.

Як жа да карупцыйных праблем ставіцца мясцовая ўлада? У справаздачы Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта за 2012, 2013 гады слова "карупцыя" не згадана ні разу, такія ж адносіны да карупцыйных праблем як у Магілёўскім гарвыканкаме, так і ў шклоўскіх вертыкальшчыкаў. Адзін раз пра карупцыю згадалі ў справаздачы прэзідыума абласнога Савета дэпутатаў – відаць і ў аблсавеце не вельмі шануюць гэту тэму.

Вось чаму, ў тым ліку грамадскасць, павінны больш крытычна адносіцца да тэмы карупцыі і шукаць прычыны замоўчвання праблемы выканаўчай уладай. Але можа з карупцыяй у Магілёўскай вобласці даўно пакончана ці ёсць дадатныя зрухі ў праваахоўных органаў? Не, гэта не так. Напрыклад, у 2012 гаду ў Магілёўскай вобласці выяўлена і пастаўлена на ўлік 209 злачынстваў карупцыйнага напрамку, не палепшылася становішча ў 2013 годзе – колькасць карупцыйных злачынстваў павялічалася на 30,5% у параўнанні з папярэднім годам і склала на 1,2% больш сярэдняга паказчыка па Беларусі. Ды і толькі за 5 месяцаў 2014 года выяўлена 101 карупцыйнае злачынства. Пры гэтым, абласная пракуратура канстатуе, што за апошнія 5 гадоў іх колькасць не памяншаецца. Яшчэ на слыху громкія затрыманні службовых асоб у Магілёўскай вобласці: генеральнага дырэктара "Крычаўцементашыферу", галоўнага ўрача Касцюковічскай бальніцы, дырэктара "Магілёўдрэва", заведзеная крымінальная справа на кіраўніка "Строммашыны".

Але чаму мясцовая "вертыкаль" так індэферэнтна адносяцца да гэтай тэмы? Справа ў тым, што болей за трацiну (35%) ад агульнай колькасці карупцыйных злачынстваў рэгіструецца ў сістэме органаў мясцовай улады і падначаленых ім структурных падраздзяленняў. А найбольшую ўдзельную вагу займаюць крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі (34%), дача хабару (33%), атрыманне хабару (11%), злоўжыванне ўладай (9%). Згадзіцеся, радаваму грамадзяніну ў радах карупцыянераў месца проста няма. Пры тым, як даводзяць чыноўнікі, найбольшая колькасць карупцыйных злачынстваў зарэгістравана ва ўстановах аховы здароўя і прамысловасці, а найменшае – у гандлі і адукацыі. Па другіх жа крыніцах якраз ва ўстановах адукацыі фіксуецца найбольшая колькасць карупцыйных злачынстваў, а ў гандлі іх значна больш, чым у ахове здароўя і на транспарце. Па ўсяму выходзіць, што якраз сацыяльны і гаспадарчы механізмы выступаюць генератарамі карупцыі, ў той жа час з'яўляючысь выніковымі інстанцыямі ў рэгіянальнай эканамічнай сістэме.

І зноў жа, найбольш карумпаванымі сферамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца будаўніцтва, размеркаванне зямельных надзелаў, хімічная прамысловасць і ўжо памянёныя ўстановы адукацыі і аховы здароў'я. Чамусьці ў Магілёўскай вобласці на першыя тры складнікі рэйтынгу не звяртаецца ўвагі. Можа на гэта ёсць свае прычыны, дык на іх трэба акцэнтаваць увагу грамадства, каб не было крыватолкаў. Бо і так хапае розных здагадак па крымінальным дзеянням мясцовых чыноўнікаў. Напрыклад, чамусці не расследуюцца громкія справы нават

у Шклоўскім раёне – справа былога начальніка райсельгасхарчу па крадзяжы 4,2 млн. еўра, “калійная справа”, чарга праваруашэнняў у жылкамунгасе, па якіх былі заведзены крымінальныя справы, але злаўмыснікі да гэтага часу не толькі на свабодзе, але і займаюць даволі “хлебныя” месцы. Спусцімся на больш ніжэйшы ўзровень – грамадскасць вельмі цікавіць факт знішчэння ўстановы культуры ў вёсцы Бушлякі Шклоўскага раёну. А таксама, чаму быў разбураны і куды знік дабротны будынак мясцовага сельскага клуба. Без карупцыі, мабыць, не абышлось, бо, каб ліквідаваць адзінае месца ў вёсцы для правядзення досуга насельніцтва і масавых мерапрыемстваў уладных структур, трэба мець вельмі дужыя падвязкі ў мясцовай вертыкалі. І не толькі на мясцовым узроўні, бо як расцаніць той факт, што сёння ў Шклоўскім райвыканкаме па-ранейшаму працуюць тры службовыя асобы, якія здзейснілі крымінальныя злачынствы карупцыйнага характару: садзейнічанне крадзяжу сродкаў жыллёвага кааператыву і незаконная пастаноўка сваякоў на ўлік на жыллё. Выратаваць гэтых злодзеяў можа толькі вышэйшая ўлада Беларусі, магчыма, нават, трэба ўмяшальніцтва самога Прэзідэнта. А гэта ўжо ні ў якія вароты не лезе. Але будзем спадзявацца, што паважаны Аляксандр Рыгоравіч разбярэцца са шклоўскімі “жабракамі” па ўсёй строгасці закону.

Сучасныя выклікі гавораць аб усё новых спосабах прысабечвання чужой маёмасці, асабліва чыноўнікамі, якія стаяць на перакрыжаванні фінансавых і таварных патокаў. Але ж для Беларусі ў цэлым магчымы і зусім кепскі сцэнар – на фоне безвынікоўнасці аграрнай палітыкі і неразумення перспектыў рынкавай эканомікі чыноўнікі паспрабуюць рознымі шляхамі прыватызаваць зямлю і асноўныя сродкі сельскагаспадарчай вытворчасці, якія зараз знаходзяцца ў распараджэнні дзяржавы. Відавочна, што гэта будзе рабіцца не на карысць дзяржавы, а зусім наадварот, што можа прывесці да катастрафічных наступстваў для радавых грамадзян. І мы ўсёй грамадой павінны стаць на шляху ліхвярства з боку цяперашняй улады, раскрываць даступнымі метадамі іх намаганні па вываду каштоўнасцяў у сваю карысць, крадзяжы, а то і крымінальныя дзеянні, такім чынам, садзейнічаць росквіту Радзімы.

## СТАРТ КАМПАНІІ ПА СТВАРЭННІ КЛАНА ЛАТЫФУНДЫСТАЎ У БЕЛАРУСІ

14 ліпеня 2014 года Аляксандр Лукашэнка, прымаючы з дакладам прэм’ер-міністра, кіраўніка працоўнай групы па рэфармаванню сельскай гаспадаркі краіны, заявіў, што неэфектыўныя сельгаспрадпрыемствы будуць прыватызаваны ў выпадку, калі яны на працягу года не выйдуць на бязстратную працу.

А 17 ліпеня ён падпісаў аж 4 указы, падрыхтаваныя працоўнай групай для рашэння праблемных пытанняў у аграпрамысловым комплексе.

Адзін з іх, Указ №349 “Аб рэарганізацыі калгасаў (сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў)” вызначае, што калгасы (СВК) да 31 снежня 2016 года належаць да пераўтварэння ў гаспадарчыя таварыствы або камунальныя прадпрыемствы. Пры гэтым, пры пераўтварэнні калгасаў у гаспадарчыя таварыствы, долі ў статутных фондах гэтага таварыства размяркоўваюцца паміж фізічнымі асобамі – членамі пераўтвараемага калгаса і адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкай, на тэрыторыі якой ён размешчаны.

Такім чынам, пад выглядам “дабрачыннага” рашэння, на працягу двух з паловай год будуць ліквідаваны апошнія 347 яшчэ існуючых у Беларусі калгасаў. Напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў нашай краіне дзейнічала больш за 2,5 тыс. сельгаспрадпрыемстваў, з іх - каля 1,5 тыс. калгасаў.

Па словах міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Л. Зайца, Указ прэзідэнта па пераўтварэнню калгасаў спрасціць працэдуру продажу сельгаспрадпрыемстваў для прыцягнення інвестыцый. Дакумент створыць прававую нарматыўную базу для арганізацыі калгасамі новых суб’ектаў гаспадарання з мэтай “вываду іх на больш высокі ўзровень гаспадарання”. Прыняццё такога дакумента, па словах міністра, вызвана яшчэ і тым, што на сённяшні дзень статуты калгасаў страцілі сваю значымасць і не адпавядаюць сучасным заканадаўчым нормам. Яны таксама ўваходзяць у супярэчнасць з Падатковым кодэксам.

На першы погляд, чытаючы падобныя рэляцыі, можа падасца, што беларуская дзяржава, беларускае чынавенства ўсяляк імкнуцца праявіць вялікі клопат аб сялянстве, аказаць яму неабходную падтрымку.

Але ж насамрэч гэта не так. Адначасовым прыняццём ажно 4-х Указаў па сельскай гападарцы (чаго ў гісторыі Беларусі яшчэ не назіралася), кіраўніцтва краіны практычна ўзаконіла рабаўніцтва сялянства, якое працягваецца ў нашай краіне пад выглядам правядзення рэформаў ужо больш 10 апошніх год.

Больш дзесяцігоддзя ў нашай краіне пад выглядам рэфармавання сельскай гаспадаркі інтэнсіўна ідуць працэсы зліцця двух-трох суседніх гаспадарак у адну і перавод новастворaных гаспадарак у гападаркі з новай формай ўласнасці. Былыя калгасы, саўгасы ператвараюцца ў ААТ (Адкрытыя акцыянерныя таварыствы), ЗАТ (Закрытыя акцыянерныя таварыствы), сельскагаспадарчыя кааператывы, якія надалей передаюцца ў распараджэнне або ўласнасць новым гаспадарам.

Праз прыняццё новых заканадаўчых актаў, што не прадугледжваюць роўныя правы для грамадзян Беларусі па прыватнай ўласнасці на зямлю, як і ў гады існавання савецкай ўлады, беларуская дзяржава імкліва выбівае з селяніна апошнія рэшткі пачуцця ўласніка, гаспадара свайго жыцця.

Як і ў далекія 20-ыя, 30-ыя гады мінулага стагоддзя ў часы калектывізацыі , калі сялянства сілай пазбаўлялася прыватнай уласнасці на зямлю, на сродкі вытворчасці і заганялася ў калгасы, беларускія ўлады зноўку прымаюць рашэнні па рэфармаванню сельгаспрадпрыемстваў, нават не цікавячыся меркаваннямі сённяшніх калгаснікаў і бессаромна пазбаўляюць сялян іх калектыўнай уласнасці.

Як гэта ўсё адбываецца? Ды вельмі проста…Разгледзім гэты працэс на прыкладзе былога калгаса імя М.В.Фрунзэ Шклоўскага раёна, землі якога размяшчаюцца ўздоўж аўтадарогі С.Пецярбург –Адэса. Гаспадарка была створана ў далёкім 1929 годзе і заўсёды па выніках дзейнасці з’яўлялася адной з найлепшых у раёне. У 2002 годзе да яе быў далучаны суседні калгас “Запаветы Леніна”. У 2003 годзе калгас быў пераўтвораны ў ЗАТ “Любініцкае”. Агульная плошча гаспадаркі склала 5602 га, з іх 5243 га –сельскагаспадарчыя ўгоддзі, у тым ліку ворыва – 4232 га. Агульная колькасць працуючых у гаспадарцы - 224 чалавекі.

У 2005 годзе пад выглядам “дабрачыннага ўчынка” - быццам бы з мэтай выратавання былога калгаса і дапамогі былым калгаснікам, акцыі сельскагаспадарчага прадпрыемства ЗАТ “Любініцкае” набыло ААТ “Амкадор” з горада Мінск – буйнейшае на тэрыторыі СНД прадпрыемства па вытворчасці дарожнай і камунальнай тэхнікі. З гэтае пары сельгаспрадпрыемства стала называцца ЗАТ “Амкадор – Шклоў”.

Такім чынам, у выніку, калгаснікаў былога калгаса імя Фрунзэ пазбавілі калектыўнай уласнасці на маёмасць – тэхніку, пагалоўе буйной рагатай жывёлы, свіней, вытворчых памяшканняў і г.д. Зроблена ўсё гэта было такім жа чынам (хоць гэта зараз выглядае і прыгажэй), як калісці гэта рабілі з іх дзядамі і прадзедамі ў далёкім 1929 г., заганяючы іх у калгас і пазбаўляючы прыватнай уласнасці.

Канчатковая ідэя ўсіх гэтых пераўтварэнняў, атрымаўшая па задумцы камбінатараў лагічнае завяршэнне, стала зразумелая толькі амаль праз восем год – 25 сакавіка 2013 года, калі на Беларускай валютна-фондавай біржы адбылася здзелка па продажы акцый ААТ “Амкадор”. У выніку ўладальнікам 562 тысяч 457 акцый “Амкадора”, што складае 53,64% статутнага фонду, стала наваполацкая кампанія ТАА “нтэрсервіс”, гаспадаром якой ’яўляецца Мікалай Варабей, прыбліжаны да А.Лукашэнкі.

Такім чынам, набыўшы кантрольны пакет акцый ААТ “Амкадор”, М.Варабей стаў яшчэ аўтаматычна і “латыфундыстам” - ўладальнікам вялікага сельскагаспадарчага прадпрыемства з тысячамі гектараў зямлі. І гэта не адзіная здзелка па прыватызацыі сельскагаспрадпрыемстваў у Беларусі. Прыхаваныя працэсы “прыхватызацыі” маёмасці ў нашай краіне ідуць поўным ходам, прычым, нярэдка бывае, сапраўднага гаспадара вылічыць вельмі складана. Пры гэтым беларускае чынавенства імкнецца пераканаць усіх нас, што зямля ў прыватную ўласнасць у Беларусі нікому не патрэбная.

Яшчэ больш нахабным вобразам абышліся з калгасам “1 Мая” Шклоўскага раёна , які тры гады таму назад быў далучаны да ААТ “Александрыйскае”. На працягу двух дзён пасля ліквідацыі калгаса, у Александрыю была вывезена ўся жывела, тэхніка, абсталяванне…, а пасля на працягу двух месяцаў зліквідавана, зцёртая з твару зямлі вытворчая база былога калгаса. А былыя калгаснікі з гаспадароў ператварыліся ў нікому непатрэбных беспрацоўных.

Падобным чынам беларускае чынавенства распарадзілася і з іншымі гаспадаркамі, як, напрыклад, быў ліквідаваны калгас імя Леніна Бялыніцкага раёна – у свой час адна з найлепшых гаспадарак краіны.

Стан “жабрака”, а не гаспадара на сваёй зямлі замацоўваецца беларускім чынавенствамі сярод сялянства яшчэ і праз мытарствы фермераў, праз навязванне думкі, што зямля беларускаму сялянству, як прыватная ўласнасць, нікому непатрэбна.

Такім чынам, рэпрэсуючы базавы ўласніцкі інстынкт беларускага сялянства, вышэйшае чынавенства краіны імкнецца дасягнуць адной мэты – здзейсніць у бліжэйшай перспетыве міжкланавую прыватызацыю зямлі…

**Намеснік старшыні Партыі БНФ *Рыгор Кастусёў***

# З гісторыі шклоўскага касцёла Святых Пятра і Паўла (да 165 годдзя будаўніцтва святыні)

Як сведчаць гістарычныя крыніцы, каталіцкія святыні ў Шклове існуюць пачынаючы з XVI стагоддзя. У дакументах паведамляецца, што ўжо на той час у Шклове існавалі фарны касцёл і кляштар Ордэна Дамініканцаў, заснаваны ў 1592 годзе. Будаўніцтва мураванака кляштара разам з касцёлам была завершана ў 1619 годзе.

Пасля заключэння ў 1569 годзе Люблінскай уніі і ўтварэння Рэчы Паспалітай дзейнасць Касцёла значна актывізавалася. Аляксандр Хадкевіч, да якога Шклоў перайшоў у спадчыну, запрасіў у горад айцоў-дамініканцаў. Каталіцкі манаскі ордэн дамініканцаў быў створаны Святым Дамінікам у 1214 годзе ў Францыі. Найважнейшым напрамкам дзейнасці дамініканцаў было паглыбленае вывучэнне тэалогіі з мэтай падрыхтоўкі пісьменных прапаведнікаў і місіянеркая дзейнасць.

Аляксандр Хадкевіч забяспечвае будаўніцтва і ўтрыманне кляштара, ствараецца бібліятэка. Вопіс, які захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Беларусі, дае ўяўленне пра знешні выгляд кляштара дамініканцаў. Галоўнае месца ў комплексе займаў мураваны касцёл са званіцай. Побач размяшчаўся кляштар, які меў падсобныя памяшканні: клець, люднік, сянніцу, дзве канюшні, вазоўню, мураваную піваварню, старую драўляную лазню, а таксама калодзеж з драўляным колам і вялізны сад. Па дадзеных польскай даследчыцы старажытнага Шклова Марыі Тапольскай, шклоўскі кляштар быў, мабыць, найвялікшым сярод дамініканскіх кляштараў на Беларусі. Тут знаходзіліся вельмі каштоўныя абразы і вялікая бібліятэка. Законнікі (каля 20 чалавек) вывучалі філасофію і тэалогію. Велічны касцёл Святога Тамаша Аквінскага быў абсталяваны арганам і ўзвышаўся над наваколлем. Каля кляштара ў 1654 годзе пахавалі жаўнераў забітых у бітве пад Шкловам, што адбылася 12 жніўня між войскамі Вяліка Княства Літоўскага на чале з Янушам Радзівілам і маскавітамі. Усяго ж на той час у Шклове налічвалася 30 асобаў каталіцкага духавенства, каля 300 вернікаў каталікоў (ад 3,5 да 5,0 працэнтаў жыхароў горада).

Які лёс напаткаў гэтыя найбольш старажытныя каталіцкія пабудовы? У «Магілёўскай хронікі Трофіма Сурты і Юры Трубніцкага» паведамляецца, што ў 1690 г. «Пан Бог адведаў агнём горад Шклоў, амаль увесь замак з вялікай вежай, фарны касцёл і крамы пагарэлі». Пасля гэтай даты фарны касцёл у Шклове ў гістарычнай літаратуры больш не згадваецца, а вось кляштар дамініканаў праіснаваў да 1832 г. (па іншых звестках – да 1840 г.) і быў зачынены па загадзе імператара Мікалая I у сувязі з мерапрыемствамі па русіфікацыі Беларусі, якія праводзіліся Расійскай імперыяй. Як і большасць іншых зачыненых кляштараў, ён быў прыстасаваны для воінскага пастою, а клерыкі адпраўлены ў Пінск. Забальзамаванае цела Аляксандра Хадкевіча перанеслі ў касцёл на каталіцкіх могілках і, як сведчаць гістарычныя крыніцы, яго магіла была цэлай яшчэ ў пачатку XX ст.

Часткова сцены касцёла і кляштара захоўваліся яшчэ ў передваенны перыяд. Канчаткова былі разабраны жыхарамі наваколля падчас пасляваеннай адбудовы. Пра месца, дзе калісьці знаходзіўся кляштар і велічны касцёл, нагадваюць курганы. Жыхары наваколля і зараз называюць гэта месца «кляштар», калі размова датычыць тых курганоў.

У 1769 годзе пачалося будаўніцтва горада на новым месцы за 2,5 кіламетра на поўнач, калі вялікі пажар знішчыў амаль 300 дамоў «Старога месца». У інвентары 1763-1764 гадах гаворыцца пра выкарчоўванне лесу і складзіраванне вялікай колькасці будаўнічых матэрыялаў пад кляштарам за горадам. Ужо тады тагачасны гаспадар Шклоўскага графства Адам Чартарыйскі задумаў пашырыць горад. Будаўніцтва «Новага месца» завяршылася каля 1778 года. Галоўнаю пабудоваю быў комплекс гарадской ратушы з гандлёвымі радамі, а таксама будынкі пошты, праваслаўнай царквы, жаночага манастыра, яўрэйскай школы.

У 1803 годзе Шклоў наведаў вядомы рускі акадэмік В.В.Севяргін, які, апісваючы галоўныя пабудовы горада, называў і драўляны касцёл. Больш дакладных крыніц пра існаванне драўлянага касцёла ў Шклове пакуль невядома. Пачынаючы з другой паловы XIX стагоддзя гістарычныя дакументы згадваюць ўжо мураваны касцёл.

Даследчык гісторыі Шклова А.Лукашэвіч сцвярджае, што для будаўніцтва мураванага касцёла выкарыстоўваліся рэшткі будынка тэатра, які быў пабудаваны ў Шклове яшчэ пры С.Зорычу. Аб тым, што касцёл у Шклове пераасталяваны з былога тэатра паведамляюць і іншыя крыніцы.

Таксама захаваліся звесткі, што касцёл пабудаваны на зямлі перададзенай генерал-маёршай

Марыяй Цуката на падставе дарчай ад 15 лютага 1838 года памерамі 50х50 сажняў. 12 жніўня 1849 года шклоўская святыня асвечана архібіскупам Казімірам Дмахоўскім. Даўжыня будынка – 13,5, шырыня – 7, вышыня – 5,25 сажняў.

Архіўныя крыніцы захоўваюць падрабязнае апісанне будынка касцёла. Сцены звонку і ўсярэдзіне тынкавыя, скляпенне падпіраюць 6 калон. Падлога драўляная, у прэзбітэрыі і навах выслана каляровымі пліткамі. Столь драўляная, памаляваная, дах накрыты бляхай і памаляваны. З франтону драўляная вежа з жалезным пазалочаным крыжам, на другім канцы на пастамэнце таксама жалезны пазалочаны крыж. Вакол пракладзены вадасцёкі.

Пры галоўным алтары антыпедыум з намаляванай на палатне Апошняй Вячэрай. Па баках фігуры Св. Амбросія і Св. Аўгустына. У сцяне абраз Божай Маці з Дзіцяткам Ісусам на руках у пазалочанай рызе і каронах. Гэты абраз закрываецца абразам Святой Тройцы, у драўлянай пазалочанай раме. Паверх гэтых абразоў абраз Божай Маці Ружанцовай з Ісусам на руках. Па баках абразы 2 анёлы. Другі алтар, з правага боку, з абразом Св. Антона з Падуі з Дзіцяткам Ісусам на руках, унізе ніша, дзе размяшчается фігура Божай Маці. Трэці алтар, з левага боку, на каменным падмурку, з абразом Укрыжаванага Ісуса Хрыста, унізе абраз Св. Міколы. Стацый дарогі Крыжовай Ісуса Хрыста – 14. Абразы чатырох Св. Евангелістаў. На хорах арган на 11 галасоў. Плябанія займае зямлі 2000 квадратных сажаняў, ахвяраваныя Аляксандрам Хадкевічам. На пляцы дом для духавенства, даўжыня – 18, шырыня – 14 аршын. Дабудавана кухня. Мураваны склеп-падвал, студня, лядоўня, дом для прыслугі. Пры гэтым доме памяшканне для навучання дзяцей малітвам і катэхізісу. Усе забудовы накрыты гонтай. Ёсць хлеў.

Тааксама ў цэнтры мястэчка ёсць дом, аддадзены ў арэнду Дзехцярову. На адлегласці 7 вёрст касцёл мае 36 дзесяцін зямлі, аддадзеная ў арэнду мечаніну Гаўрылу Відзмонту. Каля горада (адна вярста) ёсць парафіяльныя могілкі, тут пабудавана капліца ў 1852 годзе. Могілкі абнесены драўляным плотам. Галоўныя ахвяравальнікі парафіі: генерал-маёрша графіня Марыя Цуката, Аляксандр Хадкевіч.

Вядома, што ў шклоўскім касцёле працавалі святары: арцыбіскуп Казімір Дмахоўскі, кс. Антон Калянкевіч, кс. Адольф Сянкевіч, кс. Пётр Зялінскі. Таксама ў дакументах нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года згадваецца прозвішча шклоўскага ксяндза Пржыалкоўскага. Разам з паручнікам Антоніем Аленскім Пржыалкоўскі быў адным з кіраўнікоў атрада паўстанцаў створаным у фальварку Чарнаруччa. Атрад быў разгромлены, Аленскі і Пржыалкоўскі расстраляны царскімі карнікамі.

Савецкая ўлада з першых дзён свайго існавання вяла барацьбу з рэлігіяй. Пачаліся ганенні на святароў, а з 1930 г. «изъятие культовых сооружений у верующих». У ліку першых быў зачынены касцёл ў Шклове.

Гісторыя захавала прозвішчы некаторых шклоўскіх каталіцкіх святароў, якія сталі ахвярамі гэтай барацьбы. З 1914 г. пробашчам парафіі ў Шклове быў ксёндз Станіслаў Ярашэвіч (1889-1937). Ён скончыў духоўную семінарыю ў Санкт-Пецярбургу і ў 1912 годзе прыняў сакрамант Святарства. Быў таксама пробашчам парафіі ў Чэрыкаве. У 30-я гады працаваў у Мінскай дыяцэзіі. Гэта быў апошні каталіцкі святар, які працаваў у сталіцы перад другой сусветнай вайной. Расстралялі ў Мінску ў 1937 годзе.

З успамінаў Альдоны Баніфацыяўны Аляхновіч, былой жыхаркі вёскі Рыжкавічы: “Мой родны дзядзя Ярашэвіч Станіслаў Антонавіч скончыў духоўную семінарыю ў Санкт-Пецярбурзе. Працаваў у Шклоўскім касцёле, потым у іншых парафіях. Карыстаўся вялікай павагай у вернікаў. Калі пачаліся рэпрэсіі, мы вельмі хваляваліся за яго. Станіслаў Антонавіч разумеў, што яго павінны арыштаваць, і папярэдзіў нас, сваіх родных, каб не падыходзілі прылюдна да яго. Сам ён па-ранейшаму выконваў свой святарскі абавязак, як мог падтрымліваў вернікаў і толькі сваім поглядам у час набажэнства падтрымліваў сувязь з намі”.

У 1923 годзе шклоўскім пробашчам быў ксёндз Антон Ярмаловіч (1897-1937). Скончыў духоўную семінарыю ў Санкт-Пецярбургу. У 1917 годзе прыняў сакрамэнт Святарства. У 1919 годзе быў арыштаваны як заложнік, калі працаваў вікарыем ў Мінску. Вызвалены, але ўжо ў студзені 1921 года паўторна арыштаваны ў Магілёве. Пасля вызвалення працаваў у парафіях Пецярбургскага, Віцебскага і Дрыса-Себежскага дэканатаў. Пастановаю Калегіі ДПУ ад 29 кастрычніка 1933 года асуджаны на 10 гадоў лагераў на Салавецкіх астравах. Пастановай “Тройкі” НКУС 9 кастрычніка 1937 года асуджаны на смерць і растраляны 3 лістапада 1937 года ў пасёлку Сандармаха пад Мядзвежагорскам.

Апошнім шклоўскім пробашчам ў перадваенны час з 1925 па 1930 гады быў ксёндз Яўген Крулікоўскі (1875-1935). Скончыў духоўную семінарыю ў Санкт-Пецярбурзе. У 1899 годзе прыняў сакрамэнт Святарства.

Працаваў вікарыем у Пінску, пробашчам у Пермі і Разані (Расія). З 1918 года быў у Мінску. Потым праца ў Оршы і Шклове. З 1934 года як выгнаннік жыў у Віцебску, дзе ў 1935 годзе памёр ад хваробы сэрца.

У 1936 г. улады распрацавалі дакумент, згодна з якім культавыя збудаванні пераабсталёўваліся ў збожжасховішчы. Такім чынам з шклоўскага касцёла быў зроблены кінатэатр, з фашчаўскага – калгасны гараж, а старасельскі проста ўзарвалі. Дзеянні савецкіх уладаў прывялі да поўнай ліквідацыі касцёльных структур у перадваенны час. Між тым акупацыйныя ўлады не перашкаджалі адчыняць цэрквы і касцёлы, аднак не дазвалялі святарам стала працаваць на тэрыторыі былой Магілёўскай акругі (зона тыла арміі «Цэнтр»), бо лічылі духавенства «ненадзейным элементам». Сярод тых, хто выехаў працаваць на землі Магілёўскай і Мінскай дыяцэзіі, былі Станіслаў Глякоўскі, Дыянізі Малец, Казімір Рыбалтоўскі, Генрык Глябовіч, Антон Святаполк-Мірскі, Вітальд Рауха, але доўга яны не папрацавалі – у выніку даносаў гэтыя духоўныя асобы былі расстраляныя.

У верасні 1944 г. на вызваленую ад нямецкіх захопнікаў Магілёўшчыну прыехаў ксёндз Баляслаў Сперскі, які працаваў у Оршы і Магілёве да мая наступнага года. Абавязкі пробашча магілёўскага касцёла святога Станіслава з 1944 да 1947 г. выконваў ксёндз Мечыслаў Малыніч. На жаль, адзіны касцёл на Магілёўшчыне быў зачынены, а ксёндз Малыніч арыштаваны і сасланы ў лагер. Найбольш верагодна, хтосьці са згаданых святароў у той складаны час наведваў і парафіі Шклоўшчыны, але пасля 1947 г. свабодна адпраўляць каталіцкае набажэнства на Магілёўшчыне стала немагчыма.

…Жыццё няспынна ідзе наперад. На пачатку 1994 г. упершыню за апошнія гады да шклоўскіх католікаў прыехаў святар Браніслаў Карвоўскі. З той пары і пачаліся рэгулярныя набажэнствы ў Шклове. Напачатку вернікі збіраліся каля разбуранага будынка касцёла, а потым знайшлася і страха над галавой...

Прайшло пяць гадоў. Шклоўская святыня паволі набывала свой першапачатковы выгляд. І вось настала свята: 20 верасня 1999 г. адбылося ўрачыстае асвячэнне касцёла святых Пятра і Паўла. Асвячэнне адноўленай святыні праводзіў кардынал Казімір Свёнтэк, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі. Пасля ўрачыстай малітвы ён павіншаваў прысутных са святам і падкрэсліў, што касцёл у Шклове стаў чацвёртай каталіцкай святыняй на Магілёўшчыне. Пан Бог не пакінуў шклоўскіх вернікаў сіротамі.

***А.Петрусевіч***



Пад час набажэнства ў касцёле святых Пятра і Паўла ў нашы дні

## Президент усомнился в прозрачности формирования цены при закупках продукции для нужд сельского хозяйства.

Лукашенко посетил сельхозугодья, принадлежащие ОАО "1-я Минская птицефабрика", где ознакомился с применением интенсивных технологий возделывания зерновых культур. Применительно к растениеводству речь зашла о закупке хозяйством необходимых объемов семян трав. Как доложили президенту, централизованно в республике этим вопросом занимается республиканское объединение "Белсемена", однако каждое хозяйство, проведя тендер, может выбрать иную фирму-поставщика, исходя из предложенной цены.

"*Разберитесь с Комитетом госконтроля, почему поставляются семена* централизованно, *но по тендеру у посредника дешевле.* Александр Лукашенко подчеркнул, что считает странной ситуацию, когда при централизованных крупных поставках цена получается выше, чем у мелких посредников. "*И их не должно быть. Ты должен быть монополистом, коль взялся за централизацию. Надо посмотреть цену на всех этапах, и эта цена должна быть самой низкой*", - подчеркнул белорусский лидер.

Читать полностью: http://news.tut.by/economics/408909.html

P.S. На наш взгляд странность в другом зачем запрещать рыночный механизм ценообразования, который способствует удешевлению сельскоохозяйственной продукции?

## Запад ввел против России самые жесткие санкции со времен холодной войны

**Правительства стран ЕС согласовали новый пакет экономических санкций против России, которые затрагивают финансовый, нефтяной и оборонный сектора экономики.** Этим решением Евросоюз ограничивает доступ к своим рынкам капитала для “российских финансовых институтов, принадлежащих государству”, вводит эмбарго на торговлю оружием с Россией и запрет на поставки в Россию товаров двойного назначения, предназначающихся для военного сектора. Также России ограничен доступ к чувствительным технологиям, “в особенности в нефтяной отрасли”.

В информационной справке Совета ЕС уточняется, что граждане и компании Евросоюза больше не смогут покупать или продавать новые акции, облигации или “подобные финансовые инструменты” со сроком обращения более 90 дней, выпущенные российскими банками в госсобственности, банками развития (Внешэкономбанк), их “дочками” и теми, кто действует от их имени.

Вводится запрет на торговлю с Россией вооружениями и сопутствующей продукцией: запрещен как экспорт из ЕС в Россию, так и импорт в ЕС из России. Кроме того, запрещаются поставки в Россию продукции двойного назначения, если эти товары и технологии предназначаются для военных нужд. ЕС также ограничит экспорт в Россию технологий и оборудования, необходимых для модернизации российской нефтяной индустрии. Будет учрежден специальный режим экспортных лицензий, и в лицензиях будет отказано, если речь идет о технологиях для глубоководного бурения, добычи сланцевой нефти и освоения арктического шельфа.

Секторальные санкции вводятся как минимум на год, но могут быть пересмотрены через три месяца (31 октября 2014г.) на предмет их эффективности.О введении новых санкций в отношении “ключевых секторов российской экономики” объявил и президент США Барак Обама. Теперь доступ к финансированию со стороны США ограничен еще для трех российских банков – ВТБ, Банка Москвы, Россельхозбанка. Также под американскими санкциями оказалась Объединенная судостроительная корпорация, объединяющая почти полсотни российских предприятий. США останавливают экспорт в Россию определенных товаров и технологий для нужд энергетического сектора. Речь идет о технологиях для глубоководного бурения, разработки сланцевой нефти и освоения арктического шельфа, что приведет к суммарному снижению добычи нефти в России на 5–10%, или на 26–52 млн т в год.Новый пакет санкций *предназначается как мощное предупреждение: незаконная аннексия территории Крыма и умышленная дестабилизация соседнего суверенного государства неприемлемы в Европе XXI века.* Россия потеряет от санкций 23 млрд евро (около 1 трлн росс. руб., или 1,5% ВВП) в текущем году и еще 75 млрд евро (около 3,5 трлн руб., или 4,4% ВВП, согласно бюджетным проектировкам) в 2015 году.*”Если Россия продолжит идти текущим путем, ее издержки будут расти”*, – предупредил на пресс-конференции президент США Барак Обама. *Санкции – это не начало “холодной войны”,* – подчеркнул он, – *“это очень конкретный вопрос, связанный с нежеланием России признавать, что Украина имеет право на собственный путь”*. Происходящее сейчас – это *“выбор, который Россия и президент Путин сделали сами”*, – заключил Обама.

Срок действия санкций потенциально может быть ограничен тремя месяцами: если бы они были приняты бессрочно, у России не было бы шанса снять их, так как не удалось бы добиться консенсуса. Ведь *как* ни занимайся импортозамещением, как ни сотрудничай с Индией и Китаем, передовые технологии находятся на Западе или в странах под сильным западным влиянием, например Израиле или Сингапуре.

Санкции Запада напрямую окажут влияние на экономику Беларуси как стратегического партнера России. Снижение объемов российского ВВП значительно ограничат потребность в белорусских товарах и услугах, негативно повлияют на объем экспорта. Впрочем, возможно наращивание экспорта продуктов питания, продукции машиностроения и химической продукции. Реально может пополнить бюджет размещение российских военных баз на территории РБ - есть и такой сценарий.

Рэдактар І.Мігурскі Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618;
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ. Падпісана ў друк 04.08.2014